ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ

# Кніга Ноша

№ 29
снежань, 2014

ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

■ **АЎТОГРАФ**

## Сяргей ДУБАВЕЦ:

# «Адпусціце кнігу на волю...»



фота Алены КАЗЛОВАЙ.

**– Шаноўны Сяргей Іванавіч, Ваша новая кніга «Сіні карабель у блакітным моры плыве» зусім не падобная да кніг, што выходзілі раней. Апошнім часам Вы больш працавалі як публіцыст, як блогер… Вы неяк казалі, што літаратура для Вас – пераадоленне сябе, зрабіць усё што можаш і трошкі больш. Новая кніга – яшчэ адна спроба пераадолець сябе?**

– Насамрэч усё крыху не так :) Новая кніжка шмат у чым перагукаецца з ранейшай прозай («Практыкаванні», «Дзённік прыватнага чалавека», публікацыі ў «Дзеяслове»). Што выходзяць кніжкі не часта, дык прычына простая – з мастацкіх тэкстаў у нас не жывуць. І пра «трошкі больш» я чуў ад Алега Бембеля, які пры тым цытаваў, здаецца, Алеся Разанава. Новая кніжка – не спроба пераадолець сябе, а спроба абысціся без таго, што ёсць у рэчаіснасці, сродкамі фантасмагорыі ды літаратурнага коміксу. Гэта поўная фікцыя, чым, памойму, і з'яўляецца мастацтва.

**– Сёння часта можна пачуць пра крызіс не столькі беларускай літаратуры, колькі крытыкі. Са старонак часопісаў і газет зніклі аб'ёмныя рэцэнзіі, у якіх дэталёва аналізаваўся твор, на змену ім прыйшлі міні-рэцэнзіі ды журналісцкія нататкі пра прэзентацыю кнігі. Як Вы лічыце, чаму так адбываецца? Ці, можа, літаратурная крытыка зусім не патрэбная чытачам?**

– Ва ўсім свеце патрэбная, і мы не выключэнне. Проста ў нас няма кніжнага рынку, дзе крытыка – інтэгральная частка. А без рынку гэты жанр percтвараецца ў «прыкладны», у крытыку дзеля крытыкі, у нейкі самастойны від творчасці, за што, дарэчы, пісьменнікі часта недалюбліваюць крытыку. Але не віна крытыкі ў тым, што яе пазбавілі функцыянальнасці. Наадварот, як толькі з'яўляецца нагода рэальна спрычыніцца да літаратурных працэсаў (прэмія Гедройца, напрыклад), крытыка ажывае.

**– Саюз беларускіх пісьменнікаў нядаўна правёў апытанне – хто і як сёння чытае кнігі. Выявілася, што беларускай літаратуры аддаюць перавагу толькі пяць адсоткаў чытачоў. І колькасць іх штогод змяншаецца. Ад розных кіраўнікоў не раз чулася: дайце нам «Вайну і мір», і вас будуць чытаць… А які рэцэпт «ратавання» сучаснай беларускай літаратуры прапанавалі б Вы?**

– Рэцэпт агульны для ўсёй беларушчыны: дайце дыхаць! Не заганяйце ў працэнтоўкі, не зачыняйце кнігарняў і выдавецтваў, не ўрывайцеся з міліцыяй на прэзентацыі кніг, не скоўвайце манаполіяй «Белкнігі», не складайце «чорных спісаў», адпусціце кнігу на волю, дайце паўстаць беларускаму кніжнаму рынку. Праблема нават не ў тым, каб дзяржава дапамагала. Праблема ў тым, каб не замінала жыць.

**Даведка «Кніганошы»:**

**Сяргей Дубавец – празаік, крытык, публіцыст, выдавец. Аўтар кніг «Практыкаванні» (1992), «Русская книга» (1997), «Дзёньнік прыватнага чалавека» (1998), «Вострая Брама» (2005), «Вершы» (2007), «Як?» (2009) і інш. Нарадзіўся ў 1959 годзе ў Мазыры. Жыве ў Мінску.**

# ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Сянкевіч Кася. Гарбата з незабудак: вершы. - Мінск: Кнігазбор, 2014, – 100 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 55).**

Кніга вершаў маладой беларускай паэткі з Польшчы Касі Сянкевіч знаёміць чытача з тонкім светам шчырых дзявочых пачуццяў. Вечныя тэмы кахання, веры, пошуку свайго месца ў сусвеце напоўніцу раскрыюцца ў пранізлівых маналогах-споведзях аўтаркі за кубачкам «Гарбаты з незабудак».




**Казько Віктар. Час збіраць косці: аповесці. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 340 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; вып. 57).**

У новую кнігу лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя Якуба Коласа Віктара Казько ўвайшлі аповесці «Час збіраць косці», «Прахожы», «І нікога, хто ўбачыць мой страх». Аўтар запрашае чытачоў далучыцца да падарожжа пакручастымі сцежкамі чалавечае памяці, дзе будзённасць перагукаецца з трывожным сном, поўным прарочых і сімвалічных праяваў, заклікае прыслухацца да глыбокіх філасофскіх, месцамі містычных, а ў выніку заўсёды аптымістычных і жыццесцвярджальных думак і развагаў.




**Рудак Антон. Верхні горад: вершы. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 86 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Дэбютную кнігу Антона Рудака (нар. 1989) склалі вершы, напісаныя за апошнія пяць гадоў. «Верхні горад» – гэта знаёмыя мясціны з нечаканага ракурсу, прыватныя ўспаміны і агульная спадчына, мінулае і сучаснасць. Рукапіс кнігі падрыхтаваны ў Рэзідэнцыі маладога літаратара ў Вільні.




**Лазуткин Андрей. Полигон: ост-модернистская повесть. – Минск: Кнігазбор, 2014. – 160 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Пункт адліку).**

Чым жывуць, як глядзяць на гісторыю і сучаснасць народжаныя ў Беларусі 1990-х? Шмат для каго гэта стане адкрыццём, кагосьці абурыць, кагосьці параніць. Аўтар пазначыў жанр свайго твора як ост-мадэрн. Ёсць тут і альтэрнатыўная гісторыя, і дызельпанк, і ўласцівы прозе дваццацігадовых цынізм і сцёб, але галоўнае – гэта дынамічная і вострая, сумленная і таленавітая проза і новае яркае імя беларускай літаратуры.




**Дойл Артур Конан. Прыгоды Шэрлака Холмса: апавяданні. Прадм. Кацярыны Мацеўскай. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 344 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка»; Бібліятэка часопіса «ПрайдзіСвет» «PostScriptum»).**

«Прыгоды Шэрлака Холмса» – першы зборнік апавяданняў пра знакамітага дэтэктыва, надрукаваны ў 1802 годзе, пасля аповесцяў «Эцюд у пунсовым» (1887) і «Знак чатырох» (1890). Зборнік улучае 12 апавяданняў, сярод якіх шмат добра вядомых і пазнавальных твораў, напрыклад, «Скандал у Багеміі» ці «Стракатая стужка», што неаднаразова экранізаваліся і пераасэнсоўваліся. Нягледзячы на тое, што далёка не ва ўсіх гэтых апавяданнях расследуецца сапраўднае злачынства, зборнік даўно ўвайшоў у залаты фонд дэтэктыўнай літаратуры і адыграў вялікую ролю ў станаўленні жанру.




**Ратуша: літаратурны альманах. Віцебск. 2014. Укл. А.П. Лазебная. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 178 с.**

Першы нумар літаратурнага альманаха Віцебскага аддзялення Саюза беларускіх пісьменнікаў «Ратуша» знаёміць з паэзіяй, прозай, эсэістычнымі ўспамінамі, а таксама творамі для дзяцей, перакладамі і гумарыстычнымі тэкстамі сучасных літаратараў Віцебшчыны.




**Іпатава Вольга. Выбраныя творы. Уклад., прадм. і камент. Л. Савік. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 592 с.: [8] с. іл. – («Беларускі кнігазбор»: Серыя 1. Мастацкая літаратура).**

Аднатомнік выбраных твораў выдатнай беларускай пісьменніцы Вольгі Іпатавай (нар. 1945) склалі найлепшыя вершы, гістарычныя раманы і аповесці. Семдзесят шосты том кніжнага праекта «Беларускі кнігазбор».




**Таўлай Валянцін. Выбраныя творы. Уклад., прадм. і камент. А. Клышкі. – Мінск: Беларуская навука, 2014. – 413 с., [4] л. іл. – (Беларускі кнігазбор. Серыя І. Мастацкая літаратура).**

Адно з самых пачэсных месцаў у беларускай літаратуры займае творчасць паэта-рэвалюцыянера, палымянага змагара за ўз'яднанне Заходняй Беларусі ў адзіную беларускую дзяржаву ў 20–30-х гадах мінулага стагоддзя Валянціна Таўлая (1914–1947). У аднатомнік яго выбраных твораў увайшлі найбольш значныя вершы, паэмы, публіцыстычныя артыкулы, успаміны, а таксама выказванні пра творчасць паэта і ўспаміны яго паплечнікаў і сяброў.




**Дарашкевіч Янук. Маркотныя зоркі: з паэтычнай спадчыны. Укл., прадм., камент. С. Чыгрына. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 36 с.**

Гэта кніга адкрывае новае імя ў гісторыі беларускай літаратуры і культуры «нашаніўскага» перыяду – паэта Янука Дарашкевіча (1890–1943), творчасць якога высока цаніў Максім Багдановіч. У зборнік увайшлі вершы паэта, адшуканыя ў розных архівах і выданнях.




**Не маўчы па-беларуску! Насценны каляндар на 2015 год. – Мінск: Кнігазбор, 2014.**

Новы год з пазнавальным календаром ад «Будзьма!» – гэта 365 беларускіх словазлучэнняў у вясёлых малюнках мастачкі Дар'і Мандзік, аўтаркі ідэі праекта «Не маўчы па-беларуску!». Дызайнерскае афармленне, як і саму ідэю календара, прапанаваў Анатоль Лазар (студыя «Адліга»). Кожны месяц прысвечаны пэўнай тэме, больш за тое, распрацоўшчыкі парупіліся, каб гэтай тэме адпавядалі і адметныя беларускія прымаўкі на кожнай старонцы календара. Ежа, вопратка, кветкі, жывёлы, вандроўкі і адпачынак – каляндар узбагаціць ваш слоўнікавы запас амаль ва ўсіх сферах жыцця!

Ідэя календара – Анатоль Лазар. Ідэя праекта «Не маўчы па-беларуску!» – Дар'я Мандзік. Укладальнікі: Дар'я Мандзік, Анатоль Лазар, Уладзімір Лянкевіч, Алена Макоўская, Ніна Шыдлоўская.

Не маўчым разам па-беларуску ў 2015 годзе!




**Квяткоўскі Севярын. Як стаць беларусам. Сто гісторый. – Мінск, 2014. – 164 с.**

Севярын Квяткоўскі, медыя-пісьменнік. Кнігі аўтара цесна пераплятаюцца з медыйнай прасторай ад газеты і радыё – да інтэрнэт-пляцовак. Перад вамі трэцяя кніга аўтара «Як стаць беларусам»: вынік дакументальна-мастацкага праекту, рэалізаванага на сайце Budzma.org.

Пад адной вокладкай сабраныя міні-маналогі людзей самых разнастайных заняткаў: інжынер, журналіст, стаматолаг, пісьменнік, земляроб, медык, музыкант, артыст, юрыст ды шмат іншых. Але ўсіх яднае прага дазнацца пра сябе і пра навакольны свет, змяніцца, знайсці сваё «я», і пачаць жыць у новым сусвеце, які адкрыўся героям. Сусвеце, які слову «Беларусь» надаў новыя сэнсы, галоўны з якіх – самастойнасць асобы.



**Глобус Адам Апавяданні розных гадоў. – Вільня: Логвінаў, 2014. – 160 с.**

Новую кнігу прозы Адама Глобуса склалі апавяданні пра самыя розныя настроі і пачуцці. Чытачы знойдуць шмат лёгкай іроніі і вясёлых эпізодаў на старонках гэтага зборніка. Беларускі Мінск і каталанская Барселона паслужылі аўтару выдатнымі дэкарацыямі для дзевяці гісторый. Выдаўцы ўпэўнены, што кніга Глобуса зацікавіць аматароў найноўшай беларускай літаратуры.




**Сыс Сяржук. Павук: вершы. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 98 с.**

Новую паэтычную кнігу Сержука Сыса «Павук» склалі вершы, створаныя за працяглы прамежак часу, што дае магчымасць прасачыць за творчай эвалюцыяй аўтара. «Месцамі аголена, недзе балюча, часам наіўна», – падвёў рысу Філасаф. «На дзіва непасрэдна і чыста» – прызнаўся аўтар Буквара. «Змрочна і гнятліва» – уздыхнуў Сябра. А брытанскі прафесар-філолаг адзначыў: «Хоць паэт вызнае сябе гарадскім жыхаром, аднак таямніцы і нават небяспекі прыроднага свету вабяць яго, і не ў апошнюю чаргу дзеля мудрасці, што адкрываецца там». Ісціна ж, як лічыць сам аўтар, недзе пасярэдзіне.




**Гавэл Вацлаў. Жыццё ў праўдзе: эсэ і прамовы. Пер. з чэшск. Сяргея Сматрычэнкі і Юліі Сматрычэнка. – Вільня: Логвінаў, 2014. – 396 с.**

Кнігу «Жыць у праўдзе» склалі найбольш вядомыя эсэ выбітнага чэшскага мысляра сучаснасці Вацлава Гаўла, напісаныя ім у застойныя гады чэхаславацкай нармалізацыі, а таксама бліскучыя прамовы, падрыхтаваныя ў перыяд бытнасці прэзідэнтам Чэхаславакіі, а пазней Чэшскай Рэспублікі. Акрамя таго, дадзены том змяшчае дадатак, у якім упершыню па-беларуску друкуюцца «Дэкларацыя Хартыі-77», да ўзнікнення якой Гавэл меў непасрэднае дачыненне, і летапіс асноўных падзеяў з жыцця ды творчасці пісьменніка і гуманіста.




**Бацкель Аляксандр І. Маёнтак Рыбы: кароткая проза. – Мінск: Ковчег, 2014. – 176 с.**

Вітражная кніга пра жыццё на сялібе, падалей ад цывілізацыі, наўмысная ізаляцыя дзеля творчасці, чыстага подыху, яскравага бачання. Кніга пра містыку, вусціш, фобіі, доўгавалосых дзяўчат, пра цела і пра жыццё вакол адной асобы.




**Майрынк Густаў. Ноч Вальпургіі. Белы дамініканец: раманы. Пер. з ням. мовы Васіля Сёмухі. – Мінск: Зміцер Колас, 2014. – 320 с. – (Littera scripta).**

Густаў Майрынк (Gustav Meyrink, 1868–1932) – аўстрыйскі пісьменнік з выразнай схільнасцю да містычнага і гратэскава-сатырычнага светапогляду. У кнігу ўвайшлі яго гістарычна-фантастычны раман «Ноч Вальпургіі» і раман, прысвечаны блуканням чалавечага «Я», «Белы дамініканец».

## ■ МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА




**Сіўчыкаў Уладзімір. Кошык Велікодны: вершы. Маст. А. Карповіч. – Мінск: Выдавец Уладзімір Сіўчыкаў, 2014. – 32 с.: іл.**

Новую кніжку Уладзіміра Сіўчыкава склалі арыгінальныя вершы і паэтычныя наследванні. Чытанка адрасуецца дзецям, іх матулям і татулям, бабулям і дзядулям, выхавацелькам і настаўніцам.




**Тэатр Сержука Вітушкі. Уклад. Л. Сагановіч. – Мінск: Тэхналогія, 2014. – 99 с.**

Кніга складаецца з дзвюх частак. Першая задумвалася аўтарам як сцэнар мультфільма з разлікам на самых маленькіх гледачоў. Сюжэты гэтага «Тэатра на далонях» не толькі забаўляюць, але і навучаюць – развіваюць кемлівасць, фантазію і спрыт у пальцах. Другая частка, «Пірады», і гэта п'есы Сержука Вітушкі паводле беларускіх, рускіх і англійскіх казак. Аўтар «гуляе ў казкі», як у пірамідкі-складанкі: вядомыя байкі, жарты, песні нанізвае адну за адной, а ў канцы кожнай п'есы прыхоўвае нейкі сакрэт, які павінны адшукаць дзеці.

Адрасуецца бацькам, выхавальнікам, а таксама ўдзельнікам дзіцячых тэатральных гурткоў.

**Стальфэльд Пэрніла. Кніжка пра смерць. Пер. з шведскай Казімера Сольца. – Мінск: Зміцер Колас, 2014. – 28 с.**




Кніга спрабуе разам з маленькімі чытачамі і іх бацькамі пашукаць адказы на пытанні, ці існуюць духі, што такое пахаванне, куды сыходзяць памерлыя, як выглядае Бог… Ярка ілюстраваная «Кніга пра смерць» у дасціпнай і нефармальнай форме дапамагае бацькам пачаць гаварыць з дзецьмі на такую няпростую нават для дарослых чытачоў тэму.




**Мельнічук Іван. Гасцінец: вершы, байкі, гумарэскі. – Брэст: Альтернатива, 2014. – 96 с.**

Змястоўныя і пацешныя вершы, баечкі, гумарэскі і жарты, якія прадстаўляе чытачу ў сваёй сёмай па ліку кнізе Іван Мельнічук, парадуюць кожнага, хто возьме ў рукі гэтую кнігу. Парадуюць чытача і створаць вясёлы прыўзняты настрой пераклады твораў пісьменнікаў з Валыні.




**Мельничук Иван. Чудеса в решете: весёлые детские стихи и сказки. – Брест: ОАО «Брестская типография», 2014. – 120 с., илл.**

У кнізе сабраныя разнастайныя па тэматыцы, у асноўным вясёлыя і гарэзныя вершы для дзяцей. Яны вучаць іх чуласці і высакароднасці, ствараюць шматграннае бачанне свету, развіваюць творчае ўяўленне.

## ■ ПОГЛЯД

# Архітэктурныя «візіткі» Беларусі

**Шумская Ирина. Шедевры нашей старины. – Минск: «Харвест», 2014. – 206 с. + 16 с. вкл.; ил. – (Неизвестная история).**

Калі пагартаеш турыстычныя даведнікі, здзіўляешся, колькі помнікаў архітэктуры захавалася ў краінах заходняй Еўропы, нашых суседзяў. А што ў Беларусі можна паказаць турысту – толькі Мірскі і Нясвіжскі замкі? Насамрэч у нас таксама захавалася шмат не менш значных помнікаў, толькі мала хто пра іх ведае.

У кнізе «Шэдэўры нашай даўніны» распавядаецца пра шматлікія замкі: Мірскі, Нясвіжскі, Гарадзенскі, Лідскі, Гальшанскі, Крэўскі, Навагрудскі, Любчанскі, Быхаўскі, Смальянскі (адзіны ў Беларусі, што мае ўласную назву – Белы Ковель), замкі ў Геранёнах і Гайцюнішках, а таксама пра Камянецкую і Варнянскую вежы, Брэсцкую і Бабруйскую крэпасці. Не абмінутыя ўвагай палацы і сядзібы. Ружанскі і Косаўскі палацы, сядзіба Міхаіла Гатоўскага ў Чырвоным беразе, палац Румянцавых-Паскевічаў у Гомелі і Паляўнічы домік князя Паскевіча ў Каранееўцы і інш.

Ёсць на што паглядзець і ў Мінску і ваколіцах: Палацава-паркавы ансамбль у Лошыцы, Сядзіба Чапскіх у Прылуках, Замак-бібліятэка ў Станькаве, сядзіба Пшздзецкіх (цяпер музей Міхаіла Савіцкага), дом-музей сям'і Ваньковічаў і сядзіба Ваньковічаў у мінскім раёне Слянянка, Пішчалаўскі замак, Белая дача...

Асобны раздзел прысвечаны культавым месцам Беларусі: Сафійскі сабор, гервяцкі касцёл, Успенская царква ў Сар'і, каложская царква, гродзенская кірха, касцёл у Мосары, Свята-Мікалаеўская царква ў Здзітаве, мячэць у Іўі, касцёл у Вялікай Рагозніцы, Вялесавы камень.

Апроч звестак пра гісторыю замкаў і палацаў, яго фундатараў і былых гаспадароў, паданняў і легендаў, звязаных з архітэктурнымі помнікамі, у выданні распавядаецца пра сучасны стан помнікаў, якія цікавосткі там чакаюць турыста.




Аўтар кнігі звяртае ўвагу на аварыйны стан некаторых помнікаў: ад велічных замкаў у Навагрудку, Крэве, Гальшанах, Смалянах і Геранёнах засталіся толькі руіны. Яны патрабуюць тэрміновай рэканструкцыі і аднаўлення.

Вядома, ахапіць усё ў адной кнізе немагчыма, і аўтар распавёў толькі пра самыя цікавыя і значныя, на яго суб'ектыўны погляд, помнікі. Кніжка будзе цікавай краязнаўцам, турыстам і ўсім, хто цікавіцца гісторыяй і культурай роднага краю.

**А.С.**




**Скрыган Ян. Добра, што я іх ведаў: аб часе, падзеях, людзях. Укл., прадм. Галіны Скрыган. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 224 с.**

У гэтай кніжцы сабраны апавяданні-ўспаміны, напісаныя Янам Скрыганам пра людзей, з якімі пашчасціла знацца ў розныя перыяды жыцця. Да гэтага часу некаторыя з іх былі ўключаны ў зборнікі твораў, некаторыя друкаваліся ў перыёдыцы, а некаторыя чакаюць свайго пачэснага месца на старонках літаратурнай спадчыны.




**Чыгрын Сяргей. Слонім і ваколіца: гісторыка-краязнаўчыя і літаратуразнаўчыя артыкулы, гутаркі. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 376 с.**

Кніга Сяргея Чыгрына прысвечана Слонімшчыне, яе гісторыі і помнікам, а таксама знакамітым людзям, якія адсюль родам. Асобны раздзел кнігі прысвечаны легендам і паданням Слонімшчыны.




**Сузор'е беларускага памежжа: беларусы і народжаныя ў Беларусі ў суседніх краінах: энцыклапедычны даведнік. Рэдакцыная калегія: А. Мальдзіс і інш. – Мінск: Энцыклапедыкс, 2014. – 588 с.**

У даведніку ўпершыню сабраны ў такой колькасці (звыш 1650 біяграфічных артыкулаў) матэрыялы пра нашых суайчыннікаў у краінах блізкага памежжа, куды ўвайшлі і ўсе краіны, якія ўтварыліся на тэрыторыі былога Савецкага Саюза, а таксама Польшча. Беларусы і ўраджэнцы Беларусі тут з'яўляюцца не эмігрантамі (мяркуецца, што далёкаму замежжу будзе прысвечана асобнае аналагічнае выданне), а перасяленцамі, добраахвотнымі або прымусовымі, у межах адных і тых жа, агульных у мінулым, дзяржаваў, або іх карэннымі жыхарамі (Беласточчына, Вільнюскі край, Латгалія, Смаленшчына). Як правіла, бяруцца пад увагу перасяленцы ў першым пакаленні (вядомыя нашчадкі беларусаў патрабуюць спецыяльнага выдання).




**Маліноўскі Мікалай. Кніга ўспамінаў. Уклад., прадм., камент. і імен. паказ. Аляксандр Фядута; пераклад з польск. Я.М. Кісялёва. – Мінск: Лімарыус, 2014. – 240 с.: іл. – (Беларуская мемуарная бібліятэка).**

Кніга змяшчае ўспаміны Мікалая Маліноўскага (1799–1865) – гісторыка, архівіста, бібліёграфа, журналіста і актыўнага грамадскага дзеяча. Ён быў удзельнікам таварыства філарэтаў, сябраваў з Адамам Міцкевічам, публікаваўся ў выданнях Адама Ганорыя Кіркора. Мемуары дапамагаюць убачыць найважнейшыя падзеі XIX стагоддзя вачыма нараджэнца ўкраінскіх земляў, які асэнсаваў сябе ліцвінам, а таму не быў абыякавы да гісторыі Літвы і Беларусі. Выданне разлічана на гісторыкаў, філолагаў, а таксама ўсіх аматараў прыгожага пісьменства.




**Дзятко Дзмітрый. Яўхім Карскі: Бацька навуковага беларусазнаўства. – Мінск: «Харвест», 2014. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»)**

Яўхім Карскі (1861–1931) – філолаг-славіст, заснавальнік беларускага навуковага мовазнаўства і літаратуразнаўства, этнограф, фалькларыст, палеограф. Сябра Пецярбургскай акадэміі навук, Чэшскай акадэміі навук, сябра Інстытута беларускай культуры. Аўтар даследавання «Белорусы» (1903–1922), а таксама звыш 1000 публікацыяў.




**Лапо Алесь. Юрый Тарыч: Пачынальнік беларускага кіно. – Мінск: «Харвест» – 2014. – 64 с.: малюнкі. – (Серыя «100 выдатных дзеячаў беларускай культуры»)**

Юрый Тарыч (Аляксееў; 1885–1967) – заснавальнік беларускай мастацкай кінематаграфіі. У 1926 г. ён паставіў першы беларускі мастацкі фільм «Лясная быль», потым кінастужкі «Да заўтра» (1929), «Уцекачы» (1932), «11 ліпеня» (1938) і іншыя. Настаўнік кінарэжысёра У. Корш-Сабліна.




**Дучыц Людміла, Клімковіч Ірына. Язычніцтва старажытных беларусаў. – Мінск: Харвест, 2014. – 368 с.; 287 іл. – (Неизвестная история).**

Кніга прысвечана этнічнай рэлігіі старажытных беларусаў. Міфы, паданні, легенды і вераванні нашых продкаў расказваюць пра іх светаўспрыманне, лад жыцця і духоўны свет, звычаі і абрады, прымхі і забабоны, багоў і легендарных герояў, татэмных жывёлаў і сакральныя расліны. Чытач даведаецца, якімі абярэгамі і амулетамі карысталіся нашы прадзеды, якія магічныя практыкі выконвалі падчас каляндарных абрадаў і ў паўсядзённым жыцці. Сучасніку будзе цікава пазнаёміцца з духамі жытла, гаспадарчых пабудоваў і прыродных абшараў, з ведзьмакамі і чараўніцамі, ваўкалакамі і іншымі дэманічнымі істотамі.




**Краўцэвіч Аляксандр. Краіна пагранічча: выбраныя творы. – Смаленск: Інбелкульт, 2014. – 518 с.**

У кнігу ўвайшлі выбраныя навукова-папулярныя, эсэістычныя і публіцыстычныя працы вядомага беларускага навукоўцы і грамадскага дзеяча з Гродна, напісаныя ім на працягу апошніх трох дзесяцігоддзяў. Некаторыя з іх друкуюцца ў зборніку ўпершыню.




**Чаропка Вітаўт. Героі паўстання 1863 года. – Мінск: Харвест, 2014. – 336 с., 97 мал.**

У XIX стагоддзі «вясна народаў» абудзіла ў сэрцах маладых патрыётаў Беларусі і Літвы дух свабодалюбства. Яны марылі аб свабодзе сваёй Радзімы і прыйшлі заваяваць яе – гэтыя высакародныя юнакі, апошнія рыцары зніклага Вялікага Княства Літоўскага. І калі ў Польшчы 22 студзеня 1863 года пачалося паўстанне, яго падтрымалі і ў Літве, і ў Беларусі. З крыві паўстання нарадзілася новая Беларусь! Беларусь, якую любілі тыя, хто ішлі змагацца за яе свабоду пад штандартамі з «Пагоняй». Менавіта яны сфармулявалі беларускую нацыянальную ідэю: незалежнасць, сацыяльная роўнасць, дэмакратыя.




**Быхаўцаў Мікалай. Паўстанне 1863–1864 гадоў у Ваўкавыскім павеце. – Гродна, 2014. – 344 с. – (Гарадзенская бібліятэка).**

Даследаванне прысвечана паўстанню 1863–1864 гадоў у Ваўкавыскім павеце і абапіраецца на дакументы з Нацыянальнага гістарычнага архіва Беларусі ў Гродне, Літоўскага дзяржаўнага гістарычнага архіва ў Вільні, а таксама на іншыя крыніцы. Большасць з архіўных крыніцаў апублікавана ўпершыню, што само па сабе з'яўляецца каштоўнасцю для ўсіх, хто цікавіцца гісторыяй роднага краю.




**Каляндарны краязнаўчы даведнік Гарадзеншчыны. Аўтар-укладальнік Уладзімір Хільмановіч. – Гродна, 2014. – 122 с. – (Гарадзенская бібліятэка).**

Кніга мае ўніверсальны характар і прыдатная да выкарыстання ў кожны год. Цягам дваццаці гадоў аўтар збіраў і натаваў фіксаваныя даты адметных гістарычных падзеяў, дні нараджэння і смерці выбітных асобаў, якія лёсам былі звязаныя з Гродзеншчынай.




**Кулинка Наталья, Федотова Наталья. Время несбывшихся надежд: 17 интервью с белорусскими журналистами о 1990-х. – Вильнюс: Логвинов, 2014. – 326 с.**

У аповядах вядомых беларускіх журналістаў і рэдактараў пра падзеі больш чым дваццацігадовай даўнасці схоплена атмасфера дзіўнага і шматабяцальнага часу: пачатку – сярэдзіны 1900-х. Акрамя таго, у іх – гісторыя развіцця і трансфармацыі беларускай журналістыкі з савецкай у постсавецкую.




**Хроніка палітычнага тэрору: 1918–2008. Крупскі рэгіён – Малое Палессе – Друцка-Бярэзінскі край. Рэгіянальны краязнаўча-энцыклапедычны даведнік. Аўтар-укладальнік Аляхновіч Андрэй; рэдактар, аўтар эсэ Дубавец Сяргей. – Крупкі, 2014. – 504 с.**

У даведніку прыводзяцца звесткі пра больш за 2000 рэпрэсаваных жыхароў Крупскага і Халапеніцкага раёнаў на Міншчыне. Таксама прадстаўлены эсэ Сяргея Дубаўца, напісаныя да 20-х угодкаў адкрыцця праўды пра Курапаты і агучаныя аўтарам у перадачы «Вострая Брама» беларускай службы Радыё Свабода. Выданне ўтрымлівае шмат даведачнай інфармацыі краязнаўчага характару, многія факты з сакрэтных архіваў спецслужбаў публікуюцца ўпершыню. Даведнік разлічаны на гісторыкаў, краязнаўцаў, а таксама ўсіх зацікаўленых чытачоў.




**Шушкевіч Станіслаў. Маё жыццё, крах і ўваскрошанне СССР. – Мінск, 2013. – 472 с.: іл.**

Палітычная аўтабіяграфія спалучаная ў кнізе з ацэнкай і аналізам значных падзеяў, удзельнікам ці сведкам якіх быў аўтар. Абмінуўшы наменклатурныя прыступкі камуністычнай іерархіі, ён – універсітэцкі прафесар фізікі – апынуўся ў складзе палітычнай эліты спачатку безнадзейна зачаўрэлага СССР, а затым і на дзяржаўнай пасадзе першага кіраўніка незалежнай Беларусі. Магчыма, гэтым вызначаецца нетрывіяльная ацэнка аўтарам дзейнасці сусветна вядомых палітыкаў, грамадскіх, культурных і рэлігійных дзеячаў, з якімі звёў яго лёс, а таксама яго бачанне перспектываў палітычнага і геапалітычнага развіцця постсавецкай прасторы.




**Савіцкі М. І. Тлумачальны слоўнік па інфарматыцы. – 2-е выд., дап. і перапрац. – Мінск: Медыял, 2014. – 418 с.**

Слоўнік-даведнік змяшчае больш за 3000 найбольш ужывальных тэрмінаў па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы. Кожны тэрмін прыводзіцца на беларускай і ангельскай мовах і даецца яго тлумачэнне па-беларуску. Мэта слоўніка – спрыяць замацаванню і далейшаму развіццю беларускамоўнай тэрміналогіі па інфарматыцы і вылічальнай тэхніцы ў навуковай літаратуры і навучальным працэсе.

Прызначаны для выкладчыкаў усіх тыпаў навучальных установаў, аспірантаў, магістрантаў, студэнтаў і школьнікаў. Можа быць карысны навукоўцам і спецыялістам рознага профілю ў галіне інфарматыкі і вылічальнай тэхнікі. Разлічаны на найшырэйшае кола карыстальнікаў персанальных кампутараў.

Кнігі можна замовіць ці набыць па наступных адрасах:
**«Акадэмічная кніга»,** г. Мінск, пр-т Незалежнасці, 72; e-mail: akademkniga@tut.by, тэл.: +375 17 292 00 52, 292 46 52, 292 50 43
**«Кніжны салон»,** г. Мінск, вул. Калініна, 5; e-mail: stival.salon@gmail.com, тэл.: +375 17 385 60 89
А таксама ў інтэрнэт-крамах: knihi.by, prastora.by, imbryk.by, ebooks.prestigioplaza.com і e-kniga.by

# «Палац» двойчы прэзентавалі ў Гомелі

**Сёлетні салідны томік альманаха сабраў пад сваёй вокладкай больш за 30 аўтараў рознага веку ды прадставіў шырокую жанравую палітру – ад мемуараў і публіцыстыкі да вершаў і літаратуразнаўчых артыкулаў.**

10 снежня ў Гомелі адбыліся адразу дзве прэзентацыі другога нумара літаратурнага альманаха «Палац». Першая сустрэча адбылася ў актавай зале гімназіі №10 горада Гомеля, дзе з вучнямі старэйшых класаў сустрэліся старшыня гомельскай філіі ГА «СБП» Анатоль Бароўскі, светлагорскі паэт Вадзім Болбас, а таксама госці з Мінску – Барыс Пятровіч, Алесь Пашкевіч, Усевалад Сцебурака і Зміцер Бартосік. Вучні атрымалі не толькі прыемныя ўражанні, але і прэзенты ад кампаніі «Будзьма беларусамі!».

Другая сустрэча літаратараў з публікай адбылася ў Гомельскім абласным краязнаўчым музеі «Палац Румянцавых-Паскевічаў». У белай гасцёўні палаца выступілі гомельскія аўтары: Генадзь Лапацін, Яўген Сергіеня, Ларыса Раманава, Андрэй Петрашэўскі.



Ларыса РАМАНАВА, Анатоль БАРОЎСКІ, Генадзь ЛАПАЦІН.

Цудоўным сюрпрызам сталася выкананне ўласных твораў гомельскай паэткай і бардам Вольгай Цярэшчанкі. Да імпрэзы далучылася кіраўніцтва Саюза беларускіх пісьменнікаў. Старшыня Барыс Пятровіч распавёў пра працу над альманахамі абласных філій і прадставіў апошні нумар часопіса «Дзеяслоў».

Напрыканцы сустрэчы прагучалі перакладзеныя Рыгорам Барадуліным песні Вярцінскага ў выкананні Змітра Бартосіка.

**Прэсавая служба СБП**

# Альманах «Ратуша» прэзентавалі ў Віцебску

**17 снежня ў Віцебску прайшлі дзве прэзентацыі доўгачаканага першага нумара літаратурнага альманаха «Ратуша» Віцебскага абласнога аддзялення СБП.**

З яго з'яўленнем усе пяць абласных філій грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» упершыню ў гісторыі адначасова займелі свае штогадовыя выданні.

Першая сустрэча прайшла ў Віцебскім дзяржаўным універсітэце імя Машэрава, дзе студэнтам прадставілі сваю творчасць сябры філіі ГА «СБП» Ірына Грумандзь, Анастасія Лазебная, Міхась Міранавіч, Уладзімір Папковіч і іншыя літаратары Віцебшчыны, чые творы апублікаваныя на старонках выдання.

Перад аўдыторыяй таксама выступіў Старшыня СБП Барыс Пятровіч, які распавёў пра Школу маладога пісьменніка, што трэці год працуе пры СБП, і заахвоціў пачаткоўцаў смялей спрабаваць свае сілы ў літаратуры і ўдзельнічаць у конкурсах.

Актыўныя ўдзельнікі сустрэчы атрымалі падарункі ад грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!».

Другая сустрэча прайшла ў славутай гарадской ратушы (Віцебскім абласным краязнаўчым музеі) і сабрала ў зале вялікую колькасць цікаўнай публікі, а таксама мясцовых аўтараў ды мінскіх гасцей. Імпрэзу адкрыў прывітальным словам Пётр Падгурскі – начальнік аддзела культуры Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама.

Да прысутных звярнуліся Старшыня ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» Барыс Пятровіч і першы намеснік Старшыні Алесь Пашкевіч, павіншаваўшы грамаду з новым здабыткам на ніве літаратуры і культуры Віцебскага краю. Чыталі свае творы Арцём Арашонак, Міхась Міранавіч, Людміла Сіманёнак.

Адметным сваім пазітывам і шчырай непасрэднасцю сталася выступленне вядомага віцебскага празаіка Франца Сіўко, які распавёў пра гісторыю выдання папярэдніх альманахаў, рэдактарскую працу над якімі ён вёў. Напрыканцы выступу сп. Сіўко пажадаў плёну і поспехаў новай старшыні філіі і ўкладальніку штогадовіка Анастасіі Лазебнай.

Прыемным прэзентам сталася выступленне барда Алеся Камоцкага, што адбылося ў фінале імпрэзы. Вечарына завяршылася аўтограф-сесіяй тых аўтараў, якія апублікаваліся на старонках першага нумара «Ратушы».



Франц СІЎКО, Алесь КАМОЦКІ, Алесь ПАШКЕВІЧ, Барыс ПЯТРОВІЧ, Анастасія ЛАЗЕБНАЯ.

**Аўтар фота: Алена Мартынава**
**Прэсавая служба СБП**

## ■ «ДЗЕЯСЛОЎ» РАІЦЬ




**Сяргей Абламейка. Настальгія: падарожная проза. – Мінск: Галіяфы, 2014. – 412 с.**

Тэксты Сяргея Абламейкі вызначаюцца нячастай у беларускай літаратуры эстэтыкай бессюжэтнай прозы. У сваіх падарожных эсэ, добра вядомых чытачу «Дзеяслова», ён злучае прозу, паэзію і публіцыстыку. Дзе б і куды ні вандраваў аўтар, як сцвярджаецца ў выдавецкай анатацыі, усе яго падарожжы заканчваюцца ў беларускай культурнай і гістарычнай прасторы. Як адзначае сам аўтар, ён *«не ставіў сабе мэту напісаць кніжку. Некаторыя свае кнігі я, натуральна, пісаў як кнігі. А гэтую я не пісаў. Яна напісалася сама. Я проста натаваў свае пачуцці і свае эмоцыі падчас падарожжаў. Гэта – сапраўды падарожныя тэксты, сапраўды падарожная проза. Я рэфлексаваў, разважаў, параўноўваў, абураўся, тужыў па нечым, што магло б быць у нас, а ёсць у іншых»*.




**Сара Лундберг. Віта Белая Крэска; пер. са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 36 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 6).**

**Сара Лундберг. Віта Белая Крэска і Эйвінд; пер. са швед. Надзеі Кандрусевіч. – Мінск: Кнігазбор, 2014. – 32 с. – (Бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў «Кнігарня пісьменніка». Падсерыя «Каляровы ровар»; вып. 7).**




Дзве новыя кнігі для дзяцей выйшлі ў серыі «Каляровы ровар» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў. Яны аб'яднаныя іменем аўтаркі – шведскай мастачкі, ілюстраткі і пісьменніцы Сары Лундберг, і галоўнай гераіняй абедзвюх гісторый, якую завуць Віта Белая Крэска. Па-беларуску гэтыя творы загучалі дзякуючы перакладчыцы Надзеі Кандрусевіч. У кнізе «Віта Белая Крэска» Сара Лундберг выступае ў ролі пісьменніцы і мастачкі адначасова. Гэтая кніга распачала серыю кніг пра дзяўчынку Віту, якая малюе крэскі на дарогах. У першай гісторыі (2009) аўтарка знаёміць чытачоў з дзяўчынкай Вітай, якая дапамагае хлопчыку перайсці дарогу і малюе пешаходны пераход. Кніга афармленая ярка, незвычайна і сімвалічна.

Другое выданне «Віта Белая Крэска і Эйвінд» (2011) Сара Лундберг аздабляе яшчэ больш дэталёва. Гэта гісторыя пра тое, як у Віты з'яўляецца сябар Эйвінд, але амаль адразу ж знікае, і Віта выпраўляецца яго шукаць. У 2013 з'явілася трэцяя кніга пра Віту, «Эйвінд і край свету», якая пакуль што не перакладзеная на беларускую.

– *Перакладаць серыю заўсёды цікава, бо назіраеш, як мяняюцца не толькі персанажы гісторыі, але часам і пісьменніца разам з імі, яе стыль апавядання. Бо першая кніга пра Віту напісаная ў больш педагагічнай манеры, а ў другой і трэцяй кнізе Сара Лундберг уздымае больш філасофскія пытанні, выкарыстоўвае кантрастныя дэтальныя вобразы, як у апісанні, так і ў малюнках,* – распавяла сайту lit-bel.org Надзея Кандрусевіч.

## ■ КАНТАКТЫ

Пададзеныя ў бюлетэні кнігі
Вы можаце замовіць непасрэдна ў выдаўцоў
па наступных кантактах:

Кніжныя серыі:
**«Бібліятэчка «Дзеяслова»,**
**«Кнігарня пісьменніка»,**
**«Бібліятэка «Бацькаўшчыны»,**
e-mail: knihanosza@gmail.com,
тэл.: +375 17 200 70 27

**«Гарадзенская бібліятэка»,**
e-mail: dzmuchavec@gmail.com,
тэл.: +375 29 133 87 17

**ІП «Логвінаў»,**
e-mail: lohvinaupress@gmail.com,
тэл.: +375 29 667 47 57

**ПУП «Кнігазбор»,**
e-mail: bkniha@tut.by,
тэл.: +375 29 772 19 14

**ПУП «Радыёла-плюс»,**
e-mail: siuchykau@gmail.com,
тэл.: +375 44 561 05 28

**СТАА «Медысонт»,**
e-mail: medisont@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 74 10

**Выдавецтва «Галіяфы»,**
e-mail: vish@bk.ru,
тэл.: +375 29 678 68 06

**Выдавецтва «Лімарыус»,**
e-mail: limarius@yandex.ru,
тэл.: +375 29 679 33 36

**ІП «Зміцер Колас»,**
e-mail: zkolas@gmail.com,
тэл.: +375 29 623 35 65



ІНФАРМАЦЫЙНЫ БЮЛЕТЭНЬ
Кніга ноша
№ 29
снежань, 2014
ЗАСНАВАЛЬНІКІ: ГА"САЮЗ БЕЛАРУСКІХ ПІСЬМЕННІКАЎ", МГА"ЗБС"БАЦЬКАЎШЧЫНА"

**Інфармацыйны бюлетэнь МГА «ЗБС «Бацькаўшчына» і ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў».**
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Наклад 299 асобнікаў. № 29 24.12.2014.
Адказны за нумар – Алесь Сачанка.
Адрас рэдакцыі: г. Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906, 220012, тэл./факс: (+375 17) 200 70 27.
E-mail: knihanosza@gmail.com